**Акурат перад новым годам прапанавалі мы вам адказаць на некалькі пытанняў "БМ"-анкеты: цікава нам было, хто ж нас чытае і чаму?**

**На жаль, адказаў атрымалі пакуль не шмат, у паштовай скрыньцы адны рахункі. Няўжо маюць рацыю тыя, хто сцвярджае, быццам народ пісаць развучыўся?**

**Не верым!!! І таму анкету паўтараем. Спадзяемся, адпачыўшы пасля святаў, вы ўсё-ткі ўзгадаеце пра асадку і накідаеце нам пару-тройку радкоў.**

**А цяпер аб прыемным. Першай на анкету "БМ" адгукнулася Віка Госцік з Ліды. Дарэчы, дзяўчына на старонках нашай газеты ўжо друкавалася. Гэтым разам побач з анкетнымі адказамі і цёплымі словамі ў наш бок Віка даслала яшчэ гараскоп і два тэсты ўласнай вытворчасці. Мы толькі глянулі — і адразу зразумелі, што гэта цікава не толькі супрацоўнікам "БМ" (якія, прынамсі, некалькі дзён толькі тым і бавіліся, што свой псіхалагічны партрэт малявалі), а ўсім нашым чытачам.**



# Неастралагічны прагноз на 2002 год

## ад Вікі Госцік

**АВЕН.** Хопіць ужо раскачвацца на дошцы, трэба нарэшце ўзяць быка за рогі і ажыццявіць свае мары! Зоркі падказваюць, што вясной да вас прыйдуць натхненне і моц на love-фронце. Спрабуйце ўсё, а калі не атрымаецца, значыць вы — не сапраўдны Авен, а выпадковы баран.

**ЦЯЛЕЦ.** Новы год ужо надышоў, а вы ўсё глядзіце на новыя вароты. Прачніцеся і дзейнічайце. Наперадзе шмат сюрпрызаў. Мая парада: пачытайце "Залатога цяльца" Ільфа і Пятрова. Па-мойму, вельмі трапна. Падумайце: ці варта губляць нешта?

**БЛІЗНЯТЫ.** Не трэба вешаць носа, інакш адбітак у люстэрку калі-небудзь вас спужае. А вы — гэта вы. І няма больш у свеце такога ж чалавека. Памятайце пра гэта, каб не ўпасці ў дэпрэсію і не разлавацца на ўвесь свет.

**РАК.** Не варта сунуцца назад, бо калі ўжо вы і пачалі якуюнебудзь справу, то давядзіце яе да пераможнага фіналу. Месца вашай зімоўкі лепш нікому не паказваць — рызыкуеце пачырванець у прамым сэнсе слова. Зоркі вам абяцаюць поспех, так што спяшайцеся прыбрацца — і ў норцы, і ў справах...

**ЛЕЎ.** Усе ведаюць, што ты — маленькі мілы львёнак. Нашто табе паказваць свае кіпцюры і натапырваць шорстку? Год пад нумарам 2002 прынясе табе львіную долю шчасця. Глядзі, не згубіся сярод такіх жа, як і ты, цароў звяроў, будзь сабою. Памятаеш Ільва Баніфацыя? Забудзь. Цяпер раўняйся на Льва Талстога. Будзь разумнейшым (ай)!

**ДЗЕВА.** Нашто ліць кракадзілавы слёзы? Лепш з'еш мядку, можа, жыццё стане саладзейшым. Новы год табе прынясе шмат сюрпрызаў у асабістым жыцці, падрыхтуйся да іх і чакай ва ўбранстве каралеўны. Каму, як не табе, зоркі дапамогуць у першую чаргу?

**ШАЛІ.** На гэты раз перававажыць сумленне. Папрасі прабачэння ў сваіх сяброў за ўсе шкоды, якія ты нарабіў (ла). Шукай шчасця на дарозе, дакладней — у вандроўцы пешшу. І памятай: ты — не прылада, а чалавек.

**SKORPIONS.** Не джаль усіх, бо на дарозе могуць сустрэцца і добрыя людзі. А калі сябры любяць вадзіць цябе з сабой, то гэта яшчэ не значыць, што ты для іх лепшы чалавек у свеце. Можа, табой яны хочуць спужаць маньякаў? А год 2002 абяцае быць вясёлым...

**СТРАЛЕЦ.** Цяпер не вы будзеце страляць, а у вас. Не-не, не пужайцеся. Аўтаматы тут не ў разлік. Вы ніколі не заўважалі над галавой анёла з лукам і стрэламі? Не? Не варта ўтойваць тое, што і так усім вядома. Тайнае заўсёды становіцца яўным... Паспяхай!

**КАЗЯРОГ.** Вы — бліны-ляпёшкі з аднае дзежкі разам з Цяльцом. Вашыя рожкі трошкі абламаныя. Не лезьце на ражон, а то ён палезе да вас. Лепей накіруйце сваю энергію ў творчае рэчышча, ды й "зелянїны" прыбавіцца...

**ВАДАЛЕЙ.** З эканамічных меркаванняў не біцеся з вадой. Бо гэта можа выліцца для вас непрыемнасцямі. Каўсьці накачучысь вас слухаць, і вам прыйдзецца прамаўчаць. Таму ў будучым годзе будзьце настойлівыя і думайце, пра што гаворыце. Вас чакаюць усе. Пачакайце і вы.

**РЫБЫ.** Хопіць маўчаць! Надыйшоў час сказаць сваё слова. У гэтым годзе вы не будзеце біцца, як рыба аб лёд, вас пачуюць і прымуць. Можа, на рэчцы вам пашанцуе, і вы выцягнеце залатую рыбку, але халява можа не прайсці. Таму думайце, жывіце і радуйцеся свайму жыццю!

# Тэст. А які — не скажу, каб спакваля не падагналі свае адказы пад ідэал. А хлусіць сабе...

**1. Што значыць "чэшка"?**
а) абутак балярыны;
б) маленькая тапачка;
в) дзяўчына з Чэхіі;
г) новы вірус, які перадаецца праз расчоску.

**2. Што на мове народу суахілі значыць "акуна матата"?**
а) хачу есці;
б) той, каго выдвінулі і ніяк не могуць задвінуць назад;
в) усё будзе добра;
г) мёртвая жырафа.

**3. N.R.M. расшыфроўваецца як:**
а) Nашы Rодныя Mатывы;
б) Nice Romantic Musik;
в) Nеиссякаемые Rесурсы Mинска;
г) Nezalezhnaya Respublika Mroya.

**4. Каго называюць "задохлік неўміручы"?**
а) студэнта;
б) Кашчэя Бессмяротнага;
в) бамжа;
г) Дзеда Мароза без падарункаў.

**5. Карлсан — гэта плён фантазіі...**
а) Аляксандра Пушкіна;
б) Астрыд Ліндгрэн;
в) Карла Лібкнехта (гэта яго сын);
г) Якой фантазіі?! Ён сапраўды жыве на даху. Я сам (а) бачыў (ла).

**6. Самба — гэта...**
а) самаабарона без зброі;
б) чай у сталоўцы;
в) адказ на абразу;
г) гарачы перуанскі танец.

**7. Folkswagen перакладаецца як:**
а) народны аўтамабіль;
б) народны воз;
в) нямецкі фальклор;
г) народны фургон.

**8. Што азначаюць лічбы 107 і 9?**
а) у суме будзе 116;
б) Альфа-радыё;
в) файныя сімвалы;
г) 107,9⁰F (прыкладна 38⁰C).

**9. Унучка Дзеда Мароза — гэта...**
а) Унучка Мароз;
б) змерзлая дзяўчына;
в) Л.Грыбалёва;
г) Снягурка.

**10. Як завецца прылада для чысткі бутэлек?**
а) вожык;
б) ёршык;
в) хамячок;
г) цыркуль.

**11. Як гучыць па-французску "я цябе кахаю"?**
а) йя цьяб'е кахайу;
б) Je ne mange pas six jours;
в) мін сін яратам;
г) Je t'aime.

***СКАРЫСТАЙЦЕ ТАБЛІЦУ ПАДЛІКУ (УНІЗЕ) І ПАДВЯДЗЕМ ВЫНІКІ:***

**Калі ў вас 19-27 балаў:** ну-у... пачуцця гумару вам не займаць, асабліва пасля святаў. Не сумняваюся, што вы — шчаслівіца і ўсміхаецеся нават у сне, бо "свята заўсёды з вамі"! Але калі вам прыйдзе паперка з "файнымі сімваламі", вам варта падумаць: зберагчы яе як успамін пра добра праведзеныя святы або пайсці туды, дзе плоцяць за свет? І памятайце: жыццё такое, якім вы яго ўспрымаеце.

**Калі атрымалася 28-35:** складваецца ўражанне, што вы нават просты відэлец лічыце дэталлю касмічнага апарата. Увогуле гэта добра, не пужайцеся. Я б пайшла з вамі не толькі ў разведку, але і ў Гімалаі, бо ваша бязмежная фантазія і аптымізм здольны зрабіць ручнымі нават мясцовых драпежнікаў.

**А калі выйшла 36-45:** што я магу сказаць? Калі вы сапраўды лічыце, што жыццё — справа сур'ёзная, вы маеце рацыю. Але прапаную палазіць па магазінах і пашукаць ружовыя акуляры ў форме сардэчак, прыйсці дахаты, стаць ля люстэрка, начапіць іх на нос і праспяваць што-небудзь з рэпертуару "Калыханкі". Калі праз хвіліну вы не ўпадзеце ад смеху, гэта — цяжкі выпадак. Мая вам парада: кожны дзень раніцай, увечары, удзень (калі пашчасціць — ноччу) усміхайцеся. Так, без прычыны. І гэта не прыклад дауна, проста і вам, і людзям будзе крыху весялей, ды й жыць стане прасцей. Паверце.

**Віка Госцік, для "БМ"**

| | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| А | 4 | 1 | 3 | 2 | 4 | 4 | 3 | 4 | 2 | 2 | 3 |
| Б | 2 | 2 | 3 | 2 | 4 | 1 | 3 | 3 | 1 | 4 | 3 |
| В | 4 | 4 | 2 | 3 | 2 | 2 | 4 | 1 | 3 | 2 | 3 |
| Г | 3 | 2 | 4 | 2 | 1 | 4 | 3 | 3 | 4 | 3 | 4 |

• **Наша анкета**

# Братушкі і сястрычкі! (Або дзядулі і бабулі?)

Вельмі разумныя і паважаныя спецыялісты (псіхолагі, напрыклад) сведчаць, што людзям больш за які іншы занятак падабаецца распавядаць пра сябе. Мы гатовыя зрабіць вам прыемнае. Бо і самім цікава даведацца: хто ж вы такія, чытачы?

**1. Ваш узрост і сацыяльны статус** ___

**2. Чытаеце газэту:**
а) рэгулярна
б) часам
в) толькі праграму ТБ
г) не чытаю ўвогуле

**3. Якое мерапрыемства Вы наведаеце ў першую чаргу?**
а) апазіцыйны мітынг
б) канцэрт у клубе "База"
в) сяброўскую п'янку
г) лекцыю ва універсітэце
д) свой варыянт ___

**4. Тры асобы, пра якіх, на Вашую думку, варта пісаць больш.** ___

**5. Тры асобы, пра якіх варта пісаць менш.** ___

**6. Чаго не хапае "Беларускай маладзёжнай"?**
а) вастрыні
б) аператыўнасці
в) інфармацыйнасці
г) лаяльнасці
д) апазіцыйнасці
е) забаўляльнасці
ж) грошай

**7. Чым у такім выпадку вы можаце дапамагчы?** ___

**8. Чаго ў "Беларускай маладзёжнай" занадта?** ___

**9. Ці з'яўляецеся Вы сябрам якой-небудзь арганізацыі? Калі так — дык якой? Калі не — чаму?** ___

**10. Асноўныя тэмы, якія вас цікавяць.** ___

**11. Пажаданне да нас.** ___

**12. Які артыкул у "БМ" вас найбольш уразіў?** ___

**13. Які артыкул абурыў?** ___

**14. Ваш любімы гатунак піва.** ___

**15. Любімы стыль музыкі.** ___

**16. Любімая газета.** ___

"БМ"

• **Армейская курилка**

# ПЕРЕПИСКА

**ДОРОГОЙ ДРУГ!**

Этот знаменательный день навсегда останется в твоей памяти. Прими наши поздравления в связи с этим удивительным праздником. В течение долгих пяти лет мы горим желанием поздравить тебя с 18-летием. И вот сегодня нам это удалось. Мы наконец-то узнали, где ты находишься. А чтобы наши поздравления не оказались пустым звуком, мы хотим в торжественной обстановке вручить тебе ценные подарки. Поэтому, убедительная просьба — явиться в Ленинский РВК и сообщить нам размеры ног и головы. Будем тебя ждать 12 января в 9 часов ОО минут. При себе иметь паспорт.

*Искренне твой, Ленинский РВК*

**Дорогой Ленинский РВК!**

Большое и огромное спасибо за поздравления! Если говорить честно, то я очень люблю подарки, особенно когда их вручают в торжественной обстановке. А что самое приятное — именно в этот день и именно в это время. Но так как ты, Ленинский РВК, не указал, как к тебе доехать, а люди при упоминании твоего имени шарахаются в сторону, то приехать я не смог. В связи с чем я прошу тебя, Ленинский РВК: перешли эти подарки на Главпочтамп до востребования. Заранее благодарен.

*Искренне твой, Дорогой Друг*

**ДОРОГОЙ ДРУГ!**

Нам очень жаль, что ты не смог явиться к нам в назначенное время. Да, это наша оплошность, что ты не знаешь нашего адреса. Но мы постараемся исправить эту досадную ошибку. Завтра, в 8 часов утра, за тобой зайдет наш человек, который знает, как к нам попасть. Будем очень рады тебя увидеть. До скорой встречи.

*Искренне твой, Ленинский РВК*

**Дорогой Ленинский РВК!**

Спасибо, что сообщили о приходе вашего человека. Но боюсь, что, скорее всего, нам так и не суждено будет встретиться. По уважительной причине я не буду ночевать дома. Так что очень жаль. И напоследок хочу сообщить тебе, Ленинский РВК, что я сменил фамилию, адрес и внешность. На этом прощаюсь.

*Навечно искренне твой, Дорогой Друг*

**ДОРОГОЙ ДРУГ!**

Как сообщил нам Ленинский РВК, ты сменил все, что мог, кроме своего личного дела. Поэтому спешим тебя поздравить с 18-летием, а также убедительно просим явиться завтра в 8 часов утра по адресу: пр.Ф.Скорины,17 желтое здание напротив памятника Ф. Дзержинскому...

Из творчества Оргкомитета Дней Физика БГУ, (okdf.narod.ru)

"Беларуская маладзёжная"
Рэспубліканская грамадска-палітычная незалежная газета
Заснавальнік
Рэдакцыя газеты "Беларуская маладзёжная"
Рэдакцыйная калегія: А. Г. Пятроўская — загадчык аддзела інфармацыі, І.А. Слаўнікава — загадчык аддзела па сувязях з дзяржаўнымі і грамадскімі арганізацыямі.

*Рэдакцыя можа не падзяляць меркаванні аўтараў, друкаваць артыкулы дзеля палемікі*

Адрас рэдакцыі:
220134, Мінск,
вул. Якубоўскага, 15-1-77
Кантактныя тэлефоны: 57-00-43, 20-98-04
E-mail:belmol@irex.minsk.by
Пасведчанне аб рэгістрацыі № 665
Пры перадруку спасылка на "БМ" абавязковая

Падпісана ў друк 17 студзеня 2002 г. у 14.30
Надрукавана з дыяпазытываў заказчыка ў паліграфічным РУП "Чырвоная звязда", 220073, г. Мінск, Першы Загарадны завулак, 3.
Кошт свабодны
Тыраж 3000 экз. Заказ № 1650

Галоўны рэдактар
Т.І. Мельнічук (Нічыпарук)
Падпісны індэкс
63309